Памятай, беларус, што і ты чалавек, які можа сабой гаспадарыць!
Л.Шпакоўскі-Случанін

# Рагнеда

№ 1, жнівень 1993 года
Кошт - па дамоўленасці

## СЛОВА ДА ЧЫТАЧА

Шаноўны чытач! Ты трымаеш у руках першы нумар газеты, якую вырашыла заснаваць Салігорская аб'яднаная раённа-гарадская рада Таварыства беларускай мовы Імя Ф.Скарыны пры дапамозе таварыства з абмежаванай адказнасцю "БелПВТТА" ("Прамысловае выкарыстанне тэкстыльна-трыкатажных адыходаў"). Гэтае выданне мае на мэце далучыць цябе да скарбаў нашай гісторыі, паказаць, якая самабытная і багатая наша культурная спадчына, раскрыць аспекты сучаснага жыцця ў нашым горадзе і раёне. Мы з радасцю прымем дапамогу ад тых, хто жадае, каб "Рагнеда" была цікавай і змястоўнай. Яе карэспандэнтамі могуць быць усе, хто неабыякавы да лёсу нашай Бацькаўшчыны. Матэрыялы ж, скіраваныя супраць нашай дзяржаўнасці, мовы і нацыянальнай сімволікі, рыхтавацца да друку не будуць. Свае слова ў гэтай справе ўжо сказалі нашы вучоныя-гісторыкі, якія, карыстаючыся дакладнымі крыніцамі, высветлілі, дзе нашы карані, адкуль вядзецца род беларусаў.

"Калі ў чалавека няма патрыятычных пачуццяў, ён становіцца перакаці-полем, якому ўсё роўна, што гіне: культура, памяць ці зямля", - такую думку выказаў вядомы літаратуразнаўца Адам Мальдзіс. Нам неабходна ўсвядоміць: мы - не бязродныя Іваны, не пясчынкі ў гэтым сусвеце; мы - этнас, мы - народ, мы - нацыя. Вядома, на старонках газеты знойдзецца месца і для цікавага займальнага матэрыялу, для розных карысных парад на ўсе выпадкі жыцця. Таму дасылайце нам пытанні, а мы пастараемся адказаць на іх. Спадзяемся, што сумеснымі намаганнямі мы зможам зрабіць цікавую, змястоўную газету.

Наша газета пакуль што рыхтуецца на энтузіязме, на грамадскіх пачатках. Наклад яе невялікі - 999 экзempляраў. Напачатку выходзіць яна будзе адзін раз на месяц. Калі ж "Рагнеда" знойдзе свайго чытача і яе можна будзе без ваганняў зарэгістраваць, каб потым аб'явіць падпіску, мяркуецца, што перыядычнасць яе выхаду павялічыцца да аднаго разу на тыдзень. Хочацца выказаць шчырую ўдзячнасць за графічнае афармленне назвы газеты студэнтам Львоўскага паліграфічнага інстытута Уладзіміру Пятровічу і Уладзіміру Станкевічу, за фінансавую дапамогу ў выпуску гэтага выдання - дырэктару таварыства "БелПВТТА" Леаніду Ясінаву, за камп'ютарны набор і вёрстку газеты - Навукова-вытворчай і камерцыйнай фірме "Грэйп". Спадзяемся, што твае сустрэчы, чытач, з "Рагнедай" стануць рэгулярнымі, што наладзіцца тваё сяброўства з намі.

*● Актуальае пытанне*

## ЗАКОН НЕАБХОДНА ВЫКОНВАЦЬ

**Першага верасня - трэція ўгодкі з дня прыняцця Закона аб мовах Рэспублікі Беларусь. З гэтага моманту ўводзяцца ў дзеянне артыкулы 11,27,28,29,31,32,35 Закона. Мы нагадваем змест названых артыкулаў і звяртаем увагу кіраўнікоў дзяржаўных і камерцыйных структур на тое, што Закон неабходна выконваць.**

**Артыкул 11. Мова дакументаў аб статусе грамадзян Беларускай ССР**

Афіцыйныя дакументы, якія сведчаць статус грамадзяніна, - пашпарт, працоўная кніжка, дакументы аб адукацыі, пасведчанні аб нараджэнні, шлюбе, а таксама дакументы аб смерці асобы выконваюцца на беларускай і рускай мовах, а асобныя дакументы пры неабходнасці - на беларускай і іншай мове.

**Артыкул 27. Мова ў сферы навукі**

У Беларускай ССР вынікі навукова-даследчых прац афармляюцца на беларускай мове, а з улікам іх прызначэння - на рускай мове. Выканаўцы навукова-даследчых прац могуць выбіраць мову публікацый навуковых вынікаў.

**Артыкул 28. Мова ў сферы культуры.**

У Беларускай ССР мовай у сферы культуры з'яўляецца беларуская мова. Гарантуецца таксама захаванне і развіццё культуры на мовах прадстаўнікоў іншых народаў, што жывуць у рэспубліцы.

З мэтай шырокага азнаямлення грамадзян рэспублікі з дасягненнямі культуры народаў СССР і сусветнай культуры Беларуская ССР забяспечвае пераклад і выданне на беларускай мове мастацкай, палітычнай, навуковай, вучэбнай і іншай літаратуры, вытворчасць і паказ фільмаў і аўдыявізуальных твораў.

**Артыкул 29. Мова сродкаў масавай інфармацыі**

У Беларускай ССР мовай афіцыйных сродкаў масавай інфармацыі з'яўляецца беларуская мова.

Мовай афіцыйных сродкаў масавай інфармацыі могуць таксама быць руская мова і мовы іншых нацыянальнасцей.

**Артыкул 31. Мова аб'яў і паведамленняў**

Тэксты афіцыйных аб'яў, паведамленняў, плакатаў, афіш, рэклам і да т.п. выконваюцца на беларускай мове. Побач з беларускім тэкстам можа быць змешчаны яго пераклад на іншую мову.

**Артыкул 32. Мова маркіроўкі тавараў**

Маркіроўка тавараў, этыкеткі на таварах, інструкцыі аб карыстанні таварамі, зробленымі ў Беларускай ССР, выконваюцца на беларускай мове.

Маркіроўка тавараў на вываз за межы Беларускай ССР выконваецца на беларускай, рускай мове або мове заказчыка.

Назвы ў таварных знаках даюцца на беларускай мове.

**Артыкул 35. Мова асабовых імён**

Беларускія асабовыя імёны і прозвішчы ўжываюцца адпаведна нацыянальнай іменаслоўнай традыцыі і законам беларускай мовы.

Асабовыя імёны і прозвішчы з іншых моў пішуцца і ўжываюцца на беларускай мове адпаведна правілам перадачы іншамоўных імён.

## Раім прачытаць



## *КОЛЬКІ НАС?*

*На 1 студзеня 1992 года ў Беларусі пражывала 10 мільёнаў 300 тысяч жыхароў. За год іх колькасць павялічылася на 20 тысяч (0,2 працэнта). Сярэднегадавы тэмп прыросту насельніцтва за 1986-1990 гады - 0,5 працэнта. Удзельная вага жанчын - 53, мужчын - 47 працэнтаў. Шчыльнасць насельніцтва - 50 чалавек на адзін квадратны кіламетр. У горадзе жыве 68 працэнтаў, у вёсцы - 32.*

*Нацыянальны склад насельніцтва даволі аднародны: беларусы складаюць 77,9 працэнта (паводле перапісу 1989 года), рускія - 13,2, палякі - 4,1, украінцы - 2,9, яўрэі - 1,1, прадстаўнікі іншых нацыянальнасцяў - 0,8 працэнта.*

*Найбольш сканцэнтраваны нашы суайчыннікі ў суседніх дзяржавах, пры гэтым на памежных з Беларуссю тэрыторыях - на сваіх спрадвечных, гістарычных землях, якія ў выніку барацьбы і палітычных гульняў больш моцных суседзяў былі адарваны ад роднай старонкі. Па звестках розных даследчыкаў ад 250 да 400 тысяч беларусаў пражывае ў Польшчы, пераважна на сваіх этнічных землях Беласточчыны і Падляшша. У новых незалежных дзяржавах, якія адрадзіліся ці створаны на тэрыторыі былога СССР, асела 2 мільёны 130 тысяч беларусаў, у тым ліку ў Расіі - 1 мільён 200 тысяч. Тут найбольш кампактна яны пасяліліся ў Маскве і вобласці - 129 тысяч, Санкт-Пецярбурзе і прыгарадах - 127 тысяч, Калінінградскай вобласці - 74 тысячы, Карэліі - 55 тысяч, Цюменскай вобласці - 49 тысяч і ў іншых рэгіёнах. Сярод жыхароў Украіны - 440 тысяч беларусаў, Казахстана - 183 тысячы, Літвы - 63 тысячы, Эстоніі і Узбекістана - па 29 тысяч, Малдовы - 20 тысяч.*

*● Слынныя людзі Бацькаўшчыны*

## ЦЯРНІСТЫЯ СЦЕЖКІ РАГНЕДЫ

У другой палове дзесятага стагоддзя ў Полацку княжыў Рагвалод. Слаўны і багаты быў у тыя часы гэты горад, які вёў гандаль з многімі іншымі гарадамі і краінамі. Да прыстані на беразе Дзвіны безупынна прыплывалі і адплывалі вялікія чаўны з таварамі. Прыязджалі купцы і госці са Смаленска, з Ноўгарада, з Кіева, з Нямеччыны і нават з далёкай Грэцыі. Куплялі і вывозілі яны звярыныя футры і скуры, пчаліны мёд і воск, смалу і тук. А прывозілі дарагія тканіны, зброю, розныя жалезныя вырабы. Ад гэтага гандлю багацеў горад, і па цэлым свеце разносілася слава аб ім і аб магутным князю полацкім - Рагвалоду, які валадарыў не толькі над Полацкам, але і над іншымі беларускімі гарадамі, што плацілі яму даніну на ўтрыманне дружыны. За некаторыя княствы (Смаленскае, Тураўскае) вёў Рагвалод барацьбу з кіеўскім князем Уладзімірам. Той жа шукаў пагаднення і сваяцтва з полацкім князем, бо хацеў пашырыць свае ўладанні. Ён паслаў сватоў да прыгожай дачкі Рагвалода - Рагнеды, але праличыўся: гордая князёўна адмовіла Уладзіміру з тае прычыны, што ён быў сынам нявольніцы. Уладзімір пакрыўдзіўся і з вялікім войскам пайшоў на Полацк. Нялёгка было яму заваяваць наймацнейшае ў Беларусі абароннае

(Заканчэнне на 2-й стар.)

# ЦЯРНІСТЫЯ СЦЕЖКІ РАГНЕДЫ

*(пачатак на стар. 1)*

месца: палачане змагаліся мужна і зацята. Але Уладзімір меў вялікае войска, акружыў горад, на вачах родных і блізкіх згвалціў Рагнеду, пасля забіў яе бацькоў і братоў, спаліў і разбурыў Полацк. Нарабаванае дабро і Рагнеду ён забраў з сабою ў Кіеў. Гордая крывічанка стала адной з яго жонак.

Праз некаторы час Рагнеда нарадзіла свайго першынца - сына Ізяслава. Пасля, адзін за адным, з'явіліся на гэты свет сыны Мсціслаў, Яраслаў, Усевалад, а таксама дочкі - Прадслава і Прэміслава. Неабходна адзначыць, што пасля нараджэння Прадславы Уладзімір, які хацеў толькі сыноў, разлаваўся на жонку і выселіў яе з Кіева ў сяло Прадславіна.

Рагнеда ніяк не магла дараваць крыўды, якую зрабіў ёй Уладзімір, не магла забыць родныя палеткі, лясы і гоні, крывіцкі народ і ўвесь час шукала спосабу, каб адпомсціць яму за бацьку, маці, братоў і каб зноў вызваліць Полаччыну. Нарэшце яна наважылася забіць мужа. Аднойчы, калі ён наведаў яе ў Прадславіне, Рагнеда атрымала магчымасць здзейсніць свой план. Занёсшы нож над спячым Уладзімірам, яна прамахнулася ... Па загадзе Уладзіміра быў скліканы сход баяраў і вылатных мужоў, каб у іх прысутнасці пакараць Рагнеду смерцю.

Прыбраная па-святочнаму, гордая палачанка без страху чакала смерці. Уладзімір ужо дастаў меч, каб здзейсніць прысуд, але ў гэты момант з другога пакоя выйшаў яшчэ зусім малы Ізяслаў. Ледзь трымаючы ў руках цяжкі меч, ён грозна прамовіў: "Бацька, не думай, што ты тут адзін!" Уражаны гэтым і засаромлены Уладзімір дараваў Рагнедзе жыццё, але выслаў яе разам з Ізяславам на іх Бацькаўшчыну - у глухмень ля вытокаў Свіслачы, дзе ў трыццаці вярстах ад Менска, пасярод балотаў, знаходзілася невялічкае паселішча. Там быў пабудаваны горад і названы Ізяславам. Цяпер ён носіць найменне Заслаўль.

Гэта адбылося ў 987 годзе, а праз тры гады Рагнеду вымусілі прыняць хрысціянства, пастрыглі ў манашкі, назваўшы Анастасіяй. Паколькі чарніца павінна была дбаць толькі пра Хрыста, у яе адабралі сына, пасля чаго замкнулі ў келлі, а Ізяслава павезлі ў Полацк. Адзінаццаць гадоў яна пражыла манашкай. Без дзяцей, без будучыні, без вартай справы, толькі з успамінамі, з думкамі, ад якіх і звар'яцець лёгка...

Памерла Рагнеда ў 1000 годзе. На адзін толькі год перажыў яе сын Ізяслаў, якога Уладзімір пасадзіў княжыць у Полацку і які, заняўшы дзедаў пасад, адрадзіў Полацкую зямлю.

Як жа скалаліся лёсы астатніх дзяцей Рагнеды? Мсціслаў стаў князем чарнігаўскім. Яраслаў, празваны Мудрым, княжыў у Ноўгарадзе і Кіеве. Прадслава ўзяла шлюб з чэшскім князем Баляславам III Рудым. Прэміслава выйшла замуж за прынца вугорскага Ласла Сара Лысага. Неабходна адзначыць, што ўнучкі Рагнеды таксама былі жонкамі еўрапейскіх манархаў: Анастасія - вугорскага караля Андрыя І, Лізавета - караля нарвежскага Гаральда III, а пасля караля дацкага Свена II. Наймалодшая ўнучка Ганна стала каралевай Францыі, выйшаўшы замуж за Генрыха І Капета.

Сёння для нас Імя Рагнеды - сімвал мужнасці і любові да Радзімы, самаахвярнасці і ўласнага гонару. Вось чаму наша газета мае назву "Рагнеда".

## САБРАЛІСЯ БЕЛАРУСЫ СВЕТУ....

### ПЕРШЫЯ УРАЖАННІ

Мне пашчасціла стаць удзельніцай Першага з'езда беларусаў свету. Гэта было самае сапраўднае свята - свята яднання нашых суайчыннікаў, якіх лёс у сілу тых ці іншых абставін раскідаў па ўсіх кантынентах. Але дзе б ні жылі гэтыя людзі: у Злучаных Штатах Амерыкі, у Аўстраліі, у Канадзе, у Францыі, у Германіі - яны не растрацілі свае чалавечыя якасці, не пазбавіліся вялікага пачуцця нацыянальнай годнасці, не забылі родную мову, захавалі яе мяккае гучанне, меладычнасць. Прыемна было глядзець на іх твары з адкрытымі добразычлівымі ўсмешкамі, пазіраць у вочы, якія свяціліся непадробнай радасцю, шчырасцю, даверам. Міжволі ўсплыў у памяці верш паэта-эмігранта Янкі Золака "Сум па Радзіме":

*З краю роднага,*
*з роднага дому,*
*У чужы і няведамы*
*край*
*Мяне выгнаў мой*
*лёс-пустадомак*
*Сумаваць і павольна*
*ўміраць.*
*Я жыву і - здаецца -*
*вясёлы*
*Па чужацкай*
*вандрую зямлі,*
*Толькі сняцца мне*
*нашыя сёлы,*
*Сняцца любыя*
*сэрцу палі.*
*Сніцца мне: на*
*вячорках дзявочых*
*Песні родныя*
*срэбрам звіняць...*
*Слёзы горкія*
*льюцца мне з вочаў,*
*Аніяк не магу іх*
*суняць.*
*І тады я павольна*
*згараю*
*У пякучай сардэчнай*
*журбе!..*
*О, мой любы,*
*гаротны мой Краю,*
*Як жа цяжка мне*
*жыць без цябе!*

### ШТО РАДУЕ НАШЫХ СУАЙЧЫННІКАЎ У СВЕЦЕ

Пякучы, нясцерпны боль, цяжкі смутак, невыносная туга па родных мясцінах спадарожнічае ім і сёння. Адно, бадай, радуе: Беларусь набыла суверэнітэт, стала незалежнай дзяржавай, вярнула свае спрадвечныя сімвалы - бел-чырвона-белы сцяг і герб "Пагоню". Праўда, да сапраўднай незалежнасці яшчэ далёка, але нашых суайчыннікаў у свеце радуе тое, што збываецца іх даўняя мара пра вольнасць роднага краю, што беларускі народ усё-такі зразумеў сваю місію, сваё прызначэнне і змог пераступіць праз старыя стэрэатыпы. Змены адбыліся і ў адносінах да тых, хто вымушаны быў эміграваць: мара аб сустрэчы з Бацькаўшчынай збылася явай. Засмучае толькі адна акалічнасць: не гучыць у Беларусі родная мова, яе месца ў зносінах займае мова суседняй дзяржавы. Страшна балюча тое, што беларусы ніяк не ўцямяць адну ісціну: як плод без зярняці нельга назваць плодам, так і народ без мовы з'яўляецца толькі насельніцтвам, а не народам, нацыяй.

### "СХІЛЯЮ ГАЛАВУ ПЕРАД НАСТАЎНІКАМІ"

Узгадваецца размова ў апошні дзень, у час сяброўскай вячэры, з беларусам з Аўстраліі, побач з якім мне давялося сядзець. Даведаўшыся, што я працую настаўніцай, ён сказаў:

- О, настаўніца? Я схіляю галаву перад настаўнікамі.

*(Заканчэнне на 4 стар.)*

*● НАМ ПІШУЦЬ...*

## РОДНАГА БЫЛО НЕ ШМАТ ...

"Каб любіць Беларусь нашу мілую, трэба ў розных краях пабываць", - пяецца ў песні. Калі ж ты ўжо здолеў пабываць у розных мясцінах і раптам знаходзіш на сваёй роднай зямельцы незнаёмы прыгожы куток, то пачынаеш узірацца ў яго больш уважліва. Менавіта такім прыгожым кутком, з якім мне пашчасціла пазнаёміцца ў мінулым годзе, стаўся Салігорск - чысты, утульны, кампактны горад з добрым вадасховішчам і цудоўным лесам навокал. А можа гэта прыгажосць па-асабліваму ўразіла мяне яшчэ і таму, што, дзякуючы гаючым уласцівасцям солі, пячоры Салігорскага спелярыя пачалі вяртаць страчанае раней здароўе.

Сёлета час майго лячэння ў спелярыі супаў са святам Купалля. Не зважаючы на дождж, пайшоў на бераг вадасховішча, каб пабачыць, як яго святкуюць салігарчане. На жаль, гэта было вельмі сумнае відовішча. Мне падалося, што свята рыхтавалася людзьмі, абыякавымі да Беларушчыны. Яшчэ не пачалося свята, а ўжо можна было набыць піва. Увагу прыцягвалі вялікі атрад міліцыянераў з дубінкамі. Слых рэзаў рэстаранны рэпертуар расейскай песні. На сцэнічнай пляцоўцы быў транспарант з назвай свята, стаяла ваза з кветкамі і ... прыемна пагойдваліся пад звыклы музычны рэпертуар два п'яныя хлопцы з бутэлькамі піва ў руках. Хлопцы, здаецца, паводзілі сябе прыстойна: не брыдкасловілі, не абражалі прысутных і нават паднялі паваленую імі ж вазу з кветкамі. А ахоўнікі правапарадку і арганізатары свята палічылі, мусіць, што ўсё праходзіць у лепшых традыцыях мясцовага люду, і заставаліся абыякавымі да таго, што адбывалася.

Толькі праз гадзіну (не ў 20.00, як афішавалася, а ў 21.00) з'явіўся на сцэне ансамбль "Родник" (менавіта так, па-расейску, аб'явіў яго назву вядучы). Чакалася, што на Купалле будзе гучаць на поўную сілу роднае слова. Але роднага было не шмат, а слухаць у Купальскую ноч расейскія прыпеўкі ды хвацкую "Сямёнаўну" наогул было горка ...

**Барыс Мускі,**
**жыхар г.Мінска.**

**Ад рэдакцыі.** Тыя факты, што прыводзяцца ў лісце, на жаль, не адзінкавыя. Пад расейскі рэпертуар групы "Карусель" прайшло святкаванне Сёмухі, або Тройцы. Незразумела, дзе ж мы жывем: у суверэннай, незалежнай Беларусі ці ў Паўночна-Заходняй расейскай ускраіне? Згодна з артыкулам 28 Закона аб мовах Рэспублікі Беларусь, моваю ў сферы культуры з'яўляецца беларуская. Гэты артыкул уводзіцца ў дзеянне з 1-га верасня бягучага года. Установы культуры нашага горада ды і раёна да пераходу на дзяржаўную мову не падрыхтаваліся: не гучыць яна ў паўсядзённай працы, у візуальнай інфармацыі перавага аддаецца мове суседняй дзяржавы...

*● Як гукнецца ...*

## ЖЫВУЦЬ ІДЭІ МІКІТЫ ЗНОСАКА?

*Штотыднёвік "Літаратура і мастацтва" за 6 жніўня ў рубрыцы "Кола дзён" змясціў рэпліку пад загалоўкам ""Перадача" тыдня" наступнага зместу: "У панядзелак, 2 жніўня, Беларускае тэлебачанне арганізавала "сустрэчу для нас" з прэзідэнтам фірмы "Калінка" В.Кавалевічам, які, рыхтуючыся да халоднай зімы, праявіў ініцыятыву і ўжо набыў для рабочых свайго прадпрыемства дзесятак "буржуек". Цікава было паслухаць яго ныя развагі пра "Белую Россию", пра тое, што сёння важней: "колбаса или белорусский язык", пра тое, што Беларусі тэрмінова трэба ўваходзіць у склад Расіі і г.д. Дзякуй калегам з нацыянальнай тэлерадыёкампаніі, яны, самі не жадаючы таго, цудоўна паказалі, якога тыпу і інтэлектуальнага ўзроўню людзі кіруюць эканомікай сёння".*

*Так, даў маху Васіль Якаўлевіч, праславіўся. Яго думкі сугучныя тым, якія выказваў герой купалаўскіх "Тутэйшых" Мікіта Зносак - чалавек, які пачынаў сваю кар'еру ў царскай установе, дзе вялікадзяржаўны шавінізм быў узведзены ў ранг палітыкі. І Мікіта адразу ж змікіціў, што лічыцца беларусам яму зусім нявыгадна, бо не будзе ходу па службовай лесвіцы. І ён стаў Нікіціем Зносіловым. І пераняў ад начальства пагардлівыя адносіны да беларускага народа, да ўсяго свайго роднага. Менавіта з гэтага і пачалася яго здрада, яго рэнегацтва...*

*Бедны беларускі народ! Колькі яшчэ кавалевічаў-зносакаў кіруюць табой, тваёй эканомікай, колькі іх яшчэ "думае", як накарміць свой народ кілбасой, ігнаруючы яго духоўныя патрэбы, адлучаючы ад сваёй спадчыны... Тут дарэчы ўзгадаць словы нашага выдатнага пісьменніка Уладзіміра Караткевіча:*

*Вучыся, сын герояў*
*і багоў,*
*Не пагарджаць святым*
*сваім мінулым,*
*А заслужыць яшчэ,*
*І вартым быць яго.*

*Як кажуць, не плюй у калодзеж... Народ, сярод якога жывеш, яго звычаі, культуру і мову патрэбна паважаць, інакш і сам не будзеш карыстацца павагай. Манкурты ніколі не былі ў пашане ні ў аднаго народа.*

